● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

26 лютага 1998 г. чацвер, № 43 (23394)



# ЗВЯЗДА

### ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

## ...ПЕНСІЯНЕРЫ, ЯКІЯ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ПРАЦАВАЦЬ, БУДУЦЬ АТРЫМЛІВАЦЬ ТОЛЬКІ ПАЛОВУ ПЕНСІІ

**У адным з мінулых нумароў «Звязда» ўжо пісала аб чутках (якія, на шчасце, пакуль не спраўдзіліся) наконт нібыта мяркуемага павышэння пенсійнага ўзросту. І вось чарговая навіна таго ж кшталту — маўляў, неўзабаве пенсіянеры, якія працягваюць працаваць, будуць атрымліваць толькі 50 працэнтаў ад сваёй пенсіі. Натуральна, пад «ударам» (нават пагалоска можа біць вельмі балюча) зноў апынуліся пенсіянеры — найбольш сацыяльна неабароненая катэгорыя грамадзян. Па каментарыі рэдакцыя тэрмінова звярнулася да начальніка ўпраўлення пенсійнага забеспячэння Міністэрства сацыяльнай абароны Наталлі ШАЎЛОЎСКАЙ.**

На думку Наталлі Мікалаеўны, гэтыя чуткі маюць тыя ж карані, што і папярэднія аб павялічэнні пенсійнага ўзросту, — з семінара «Накірункі рэфармавання пенсійнай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь».

— Я сама прысутнічала на гэтай сустрэчы і дакладна ведаю, што, калі ўздымаліся абодва гэтыя пытанні, пра тэрміны казалі літаральна наступнае: рана ці позна. Гэта ўжо ваш брат-журналіст паспяшаўся абвясціць аб гэтым як аб нечым дакладна вырашаным і вызначаным, — заўважыла Наталля Шаўлоўская.

— Зараз пенсія выконвае функцыю дапаўнення да заробатнай платы. Памеры дапамог усім вядомыя, таму не можа ісці нават ніякай гаворкі аб тым, што працуючыя пенсіянеры будуць атрымліваць толькі палову пенсіі. Ніякіх захадаў на гэты конт Міністэрства сацыяльнай абароны не прадпрымала і не збіраецца прадпрымаць у далейшым. Прынамсі, у рамках дзеючага заканадаўства, — падкрэсліла Наталля Мікалаеўна.

Далей Наталля Шаўлоўская заўважыла, што калі будзе дзейнічаць новы закон аб страхаванні і калі памеры пенсій будуць адлавядаць пражытачнаму мінімуму, (фактычна — замяшчаць заробатную плату) дык, магчыма, толькі тады можа паўстаць такое пытанне. Аднак зараз такія работы зноў жа не вядуцца (нават калі б і вяліся, спатрэбілася б не менш двух гадоў толькі на распрацоўку законапраекта, не кажучы пра тое, колькі б новы закон потым зацвярджалі). Таму пенсіянеры нашай краіны могуць не хвалявацца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.





## ДЗЯЛІ БЮДЖЭТ, ТАВАРЫШ СЕЛЬСАВЕТ

А як жа яго без крыўды раздзяліць, калі грошы зусім невялікія, а патрэбы ў іх становяцца ўсё большымі? На пасяджэнні сесіі Узбалацкага сельсавета, што на Валожыншчыне, такая размова датычыла ўсіх галін, якія на вёсцы трымаюцца на бюджэтных сродках. З года ў год бюджэту сюды ідзе не надта багатае папаўненне, а мясцовыя грашовыя зборы зусім ледзь адчувальныя. Тым не менш, сацыяльна-культурная сфера, як адзначалася на сесіі сельсавета, не прыйшла ў заняпад — знаходзяць выйсце з нялёгкага становішча і працягваюць сваю працу на радасць вяскоўцам работнікі дзіцячага садзіка, фельчарска-акушэрскага пункта. Паклапаціліся тут і аб тым, каб і дарогі не пагоршыліся, і сядзібы не сталі горш выглядаць. Ва ўсёй сваёй прыгажосці высіцца сярод старых дрэў праваслаўная царква — дагледжаная, пафарбаваная — таксама аб'ект першачарговай увагі мясцовых гаспадароў.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ВІЗІТ БУДЗЕ «ПРЫРАСТАЦЬ» КАНКРЭТНЫМІ ПАГАДНЕННЯМІ

**Закончыўся трохдзённы рабочы візіт прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Прыморскі край і Новасібірскую вобласць. 24 лютага кіраўнік беларускай дзяржавы прыбыў у Мінск.**

Вынікі гэтай паездкі прэзідэнта падводзіць пакуль рана, але, як сказаў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА віцэ-прэм'ер Беларусі Васіль Далгалёў, ужо цяпер можна смела сцвярджаць, што наведванне Аляксандрам Лукашэнкам Прымор'я і Новасібірскай вобласці паклала пачатак новаму вітку ў развіцці ўзаемаадносінаў нашай краіны з гэтымі расійскімі рэгіёнамі. У прыватнасці, дзякуючы візіту ў Беларусі і Прыморскім краі ўжо ідзе падрыхтоўка да падпісання пагаднення аб пастаўцы да нас мінтая, марской капусты і крабавых паўфабрыкатаў. Гэта дасць магчымасць істотна знізіць кошт гэтых прадуктаў у нас і значна павялічыць аб'ём тавараабароту паміж Беларуссю і Прымор'ем. Акрамя таго, як сказаў журналістам губернатар Новасібірскай вобласці Віталь Муха, у сакавіку гэтага года ён мае намер наведаць нашу краіну для падпісання пагаднення аб развіцці інфармацыйных і транспартных сувязяў паміж вобласцю і Рэспублікай Беларусь.

У цэлым жа, паводле слоў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла нашай краіны ў Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Грыгор'ева, цяперашні візіт беларускага прэзідэнта ў рэгіёны Далёкага Усходу і Заходняй Сібіры стане новай вяхой у развіцці супрацоўніцтва, а ўсю маштабнасць і важнасць гэтай паездкі можна будзе ацаніць толькі ў будучым.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЫ «ЗА» АТАМНУЮ СТАНЦЫЮ, КАЛІ ЯНА НЕ ЛЯ ДОМА

**Згодна з апытаннем, праведзеным нядаўна Інстытутам сацыялогіі, «за» будаўніцтва атамнай электрастанцыі на тэрыторыі рэспублікі выказаліся 17 працэнтаў рэспандэнтаў.**

Аднак гэтая лічба рэзка змяншаецца, калі пытанне канкрэтызуецца; толькі 5,7 працэнта апытаных пастаявіцца спакойна да будаўніцтва атамнай станцыі побач са сваім домам.

Па меркаванню дырэктара Інстытута сацыялогіі акадэміка НАН Беларусі Яўгена Бабосава, боязь беларусаў тлумачыцца чарнобыльскім сіндромам: з жыццёвых фактаў, якія выклікаюць трывогу ў насельніцтва, наступствы катастрофы «займаюць» трэцяе месца. Тлумачэнне таму простае: толькі 23-яе(!) пакаленне нашчадкаў поўнасцю пазбавіцца ад «падарункаў» мірнага атама.

Частка жыхароў рэспублікі лічыць, што праблемы энергетычнага забеспячэння магчыма вырашыць, дзякуючы саюзу Беларусі і Расіі. У прыватнасці, 18 працэнтаў упэўнены, што аб'яднанне дае тагія гарантыі. Ніякіх пераваг не бачаць 45 працэнтаў рэспандэнтаў.

Беларускія ж вучоныя (былі апытаныя 250 эколагаў, фізікаў, энергетыкаў і г. д.) мяркуюць, што разліча́вць варта на свае рэзервы. Амаль 62 працэнты рэспандэнтаў выказваюцца за будаўніцтва атамнай электрастанцыі на тэрыторыі рэспублікі.

Толькі 9 працэнтаў апытаных экспертаў лічаць, што беларускія вучоныя дастаткова падрыхтаваныя. Жыхары рэспублікі таксама не вельмі давяраюць землякам, аддаючы перавагу высновам замежных спецыялістаў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

### ДЗЁННІК ПАСАЖЫРА

# Вясна
## напрыканцы зімы

Як пасажыр я змірыўся і супакоіўся. Аўтобусы ў маіх Шабанах па-ранейшаму ходзяць не па графіку і перапоўненыя. Не раздражняюць і шматлікія кантралёры. У крайнім выпадку, заўсёды можна сесці ў маршрутнае таксі. Кошт — 10 тысяч — не такі і вялікі, затое нервы ўлагоджаныя. Увогуле ў «маршрутках» ездзяць людзі сярэдняга дастатку і моладзь. Яна, мусіць, аддае перавагу камфорту, а не маральным стратам.

А наконт грамадскага транспарту... Галоўнае не праблемы, а людзі. Пацвярджэннем — цікавае тлумачэнне Сусвету, дадзенае Паскалем: Сусвет — гэта кола, цэнтр якога ўсюды, а акружнасць нідзе. Значыць аўтобус, у якім еду, нічым не саступае па сваёй значнасці Беламу дому ці Авальнай зале.

●

На пярэднім сядзенні — мужчына і жанчына сярэдніх гадоў. Хутчэй за ўсё (адчуваецца па будзённасці зносінаў) — муж і жонка. Прыстойна апранутыя, твар мужчыны крыху прыпухлы. Ён сумна гаворыць:

— Чаго ты на мяне ўсё цісне́ш? І так пастаянна адчуваю перад табою віну.

— А табе выгадна адчуваць сябе вінаватым. Бо ў гэтым выпадку не трэба браць адказнасць за нашы сямейныя праблемы.

— Зноў твае псіхалагічныя выбрыкі...

Яны сціхлі, я ж задумаўся пра псіхалогію як навуку. Яна становіцца вельмі папулярнай у нас, хаця і тут ад свету адстаём. Зразумела, псіхолагі, асабліва ў школе і нават садку, вельмі патрэбныя.

Але ці зменіць псіхолаг паводзіны сталага чалавека? Наўрад ці. Дапаможа выгаварыцца — і тое добра.

Нядаўна выпадкова ў рукі трапіла кніга Альфрэда Адлера. Чытаю: сутнасць чалавека — у празе да ўлады. З'явілася скептычная думка: паводзіны чалавека можна падагнаць пад любую ідэю. Напрыклад: усе ўчынкі абумоўленыя цягай да смерці. Замяніце на «цягай да бессмяротнасці». Нічога не зменіцца.

●

Гутаркі мужчын падчас зімовай Алімпіяды былі падобныя. Пра хакей. Я — не выключэнне. Часта не вытрымліваў, у аўтобусе абмяркоўваў гульні з абсалютна незнаёмымі людзьмі. Ганарыліся. Вось толькі апошняя гульня раздражняла. Нібы хакеісты настроіліся расіянам праіграць. Інакш успрымаліся і ўзнёслыя словы каментатара пра поспехі беларусаў на Алімпіядзе.

А што факты? На мінулай — два сярэбраныя медалі, на гэтай — два бронзавыя. І не задумваўся б пра гэта, каб не залішняя фанфарнасць.

Сапраўды, калі ўвесь час чуць, што мы вясёлыя, шчаслівыя і таленавітыя, пачнеш у гэта верыць. Шаманства. А яно робіць чалавека слепаватым і глухаватым.

●

23 лютага. У аўтобусе — кантралёры.

— А вы не ведаеце, што сёння мужчынам можна ездзіць бясплатна? — жартуе падпіўшы пасажыр, дастаючы з кішэні праязны.

У большасці людзей святочны настрой. Думаю пра сваё. Калі нешта ў жыцці не ладзіцца, мне пра войска сняцца сны. Дакладней — пра першыя месяцы. Нібыта мяне, цяперашняга, забіраюць служыць. І я ніяк не магу ўцяміць чаму. Часта ад тых кашмараў прачынаюся і радуюся, што дома, што я цывільны чалавек. Тлумачэнне таксама са сферы псіхалогіі: у падсвядомасці засталося адмоўнае ўспрыманне таго перыяду жыцця. Вось у цяжкія хвіліны страх і праяўляецца ў снах. Кажуць, да былых зэкаў такім чынам вяртаецца зона.

●

Зноў гутарка, пачутая 23 лютага. Размаўляюць дзве жанчыны. Гавораць пра Ірак, пра магчымую вайну.

А мне прыгадваецца нядаўняя вайна ў Чачні. Там, між іншым, 23 лютага не святкуюць. У 1944 годзе ў гэты дзень сабралі чачэнцаў з інгушамі і вывезлі з родных зямель. Падчас сустрэчы з Джахарам Дудаевым задаў яму пытанне пра чачэнскую мафію. Ён спачатку аднекваўся, а пасля кажа:

— Калі нас кінулі ў казахстанскія стэпы, дык каб выжыць, заставалася адно: альбо прасіць, альбо забіраць сілаю. Прасіць для чачэнцаў — апошняя справа. Заставалася другое. Можа там карані...

Праз паўгода пасля той гутаркі пачалася вайна. Па шчырасці, мне здаецца, яна ніколі не скончыцца. Вельмі шмат крыві пралілося.

●

Па-ранейшаму мы — нацыя, якая шмат чытае. Асабліва ў транспарце. Мужчыны аддаюць перавагу газетам, жанчыны — дэтэктывам. Днямі ў метро глянуў на вокладку кнігі, якую чытала маладая дзяўчына. Здзівіўся — «Партрэт Дарыяна Грэя». Калісьці студэнтам і я пазнаёміўся з гэтым выдатным творам, дзе герой — кепскі чалавек — зусім не старэе. Затое гады і заганы паводзінаў адбіваюцца на яго́ным партрэце.

Нашы заганы таксама не знікаюць, хоць і забываемся на іх. Наша душа — той партрэт, на якім адбіваюцца жудасныя думкі і ўчынкі. А калі душа бессмяротная, у што веру, значыць яны з намі назаўсёды.

●

Прыемна з акна аўтобуса глядзець, як прыходзіць у Мінск вясна. Ужо свяжэйшым выглядае горад. Ды пакуль нагадвае няголенага чалавека. Ён добра выспаўся, але да ванны яшчэ не дайшоў. Адна небяспека: зноў могуць пачацца маразы і выпадзе снег. І ўсё паўторыцца. А пачуццё радасці сустрэчы з вясной згубіцца...

**Міхал ТАЛОЧКА.**

**Кожнае з пытанняў, узнятых у час правядзення слуцкай «выязной прыёмнай» «Звязды», альбо абсалютная іх большасць патрабуюць канкрэтнага адказу. Таму і невыпадковая наша размова са старшынёю Слуцкага гарвыканкама Аляксандрам САЙКО.**

**Дыялог з ім паказаў: шэраг клопатаў альбо нават досыць важкую іх частку можна вырашыць на месцы. Праўда, рух тут павінен быць сустрэчны: не толькі ад грамадзян да ўлады, але і да грамадзян з боку ўлады...**



# ЛЮДЗІ ЖАДАЮЦЬ ЖЫЦЬ НАРМАЛЬНА. І Ў ГЭТЫМ У ПЕРШУЮ ЧАРГУ ІМ ПАВІННА ДАПАМАГАЦЬ МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА

**— Безумоўна, сёння многія, перш-наперш сацыяльныя пытанні падаюцца невырашальнымі. І ўсё ж, як нам здаецца, улада не можа не выслухаць чалавека... А выслухаўшы — што робіць улада, як плануе ўсё ж такі нешта зрабіць?**

— Ведаеце, я не хацеў бы кідацца ў вялікую філасофію альбо займацца сацыялогіяй. Пытанняў сёння можа не меней і не болей, чым учора. Ідзе нармальнае жыццё. Людзі, як і раней, імкнуцца нармальна жыць. І, канешне, не заўсёды гэта атрымліваецца. Тады са сваімі клопатамі ідуць да нас. Часам у мяне такое ўражанне складваецца, што быццам бы галоўная задача ў наведвальніка, каб загнаць мяне ў кут, пачуць у адказ тое, што яму хочацца пачуць. А я не магу пераварочваць усё з ног на галаву. Не магу падманваць чалавека. Не магу чорнае называць белым. Адсюль і шмат, канешне, незадаволенасці. Мы цудоўна разумеем характар той незадаволенасці, што народжана бяссіллем, якое праяўляецца ў паводзінах чалавека нямоглага. Але, як ні жорстка камусьці гэта пачуць, шмат утрыманства сёння ў грамадстве. І носьбітам яго, утрыманства, можна дапамагчы аднойчы, але не назаўсёды, не на ўсё жыццё.

**— Як вы лічыце, якая галіна сацыяльных зацікаўленняў найболей вострая ў Слуцку — ахова здароўя, жылкамунгас ці яшчэ што-небудзь?**

— Першае — пытанні сацыяльнага забеспячэння. Другое — блок жыллёва-камунальных праблем. Мы ж толькі што атрымалі важкі прыдатак да гарадской жыллёвай гаспадаркі — вайскоўцы перадалі свой жыллёвы фонд. А гэта ні многа ні мала — 15 тысяч жыльцоў. Адразу ж узніклі праблемы з рамонтам кватэр. І, безумоўна, любым чынам у апошні час мы стараліся падцягнуць стан гарадкоў да ўзроўню горада. Хаця далёка не ўсё ўдалося.

З вайсковых гарадкоў нават даводзілася рассяляць з баракаў. Выдзялялі, як гэта ні цяжка было, кватэры з жылога фонду горада. Але вайскоўцы пакінулі і унікальную спадчыну. Ёсць два дамы, якія нават па лініі КЭЧ разам з жыльцамі не праходзяць. Гэтыя дамы і на наш баланс не перададзены.

**— А людзі, тым не меней, там жывуць. Дарэчы, і да нас яны звярталіся. З іх пытаннем абівааем парогі Міністэрства абароны. Спадзяёмся, што там хопіць розуму не спасылацца на тое, што, маўляў, вінавата расійская вайсковая часць...**

— Але будзем рабіць усё магчымае і для жыхароў колішніх вайсковых гарадкоў. Толькі б усё ж паболей нам паразумення з Міністэрствам абароны.

Перадаўшы, згодна з пастановай урада вайсковыя гарадкі мясцовай уладзе, Міністэрства абароны ўсё ж не да канца зрабіла гэтую работу. Уражанне, прабачце, такое, што спяшаліся як найхутчэй спіхнуць жыллёвы фонд. А вось пазбавіцца, прыкладам, пустуючых складскіх памяшканняў не спяшаюцца. Хаця нам бы яны якраз не лішнія былі. Не перадалі тэхніку, якую абяцалі. Атрымліваецца, што чыноўнікі ваеннага ведамства не былі зацікаўлены, каб мы пасля іх мелі дадатковыя рэсурсы для выпраўлення іх жа хібаў па ўтрыманню жыллёвага фонду. Так не перадалі і лазнева-пральны камбінат напачатку. Даваліся весці дзіўную барацьбу.

**— Ёсць пытанні грамадзян, адрасаваныя вам, мясцовай уладзе, якія носяць невырашальны на вашым узроўні характар. Ці выступаеце вы ініцыятарам давядзення пэўных асабістых пытанняў грамадзян да вышэйшых уладных структур?**

— Сёння з міністэрствамі працаваць можна. Перш-наперш мы ўдзячны міністэрствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі, аховы прыродных рэсурсаў, мінфіну. Фактычна ў большасці ўладных інстытутаў мы знаходзім паразуменне. І ў аблвыканкаме — таксама.

**— Аляксандр Аляксеевіч, давайце звернемся і да тых прыватных, канкрэтных пытанняў, якія, як нам падаецца, у стане вырашыць вы, мясцовая ўлада... Першае пытанне. З просьбай адрамантаваць дах дома па вуліцы Капыльскай звярнуліся адразу 60 жыхароў. З такой жа просьбай звяртаецца Генадзь Аляксандравіч Санько, які жыве па вуліцы Капыльскай, дом 29, кватэра 107...**

— Тут, што да пятага дома, патрэбна наступнае тлумачэнне. Дом гэты — адзін са старэйшых жыллёва-будаўнічых кааператываў. Там няма старшыні. Толькі бухгалтар. Да мяне таксама прыходзілі: маўляў, дапамажыце. Сабралі людзей. Выбралі старшынёю кааператыва жанчыну ва ўзросце. Хаця і рамантаваць трэба за кошт ЖБК, пастараемся нечым дапамагчы. Але не забывайцеся, што па-новаму ўжо трэба мысліць і самім гаспадарам ЖБК. Чаму б не пакласці крыху сабраных сродкаў на дэпазіт у банку?

Што да дома 20 па той жа Капыльскай вуліцы, то на рамонт даху там патрэбна 102 млн. рублёў. Рамонт уключаны ў план 1998 года. Дом — на першым месцы.

**— Супрыянава, Шэлягоўіч пытаюцца, калі будуць газіфікаваныя дамы №№ 35 і 39 па завулку Урыцкага.**

— Газаправод да гэтых дамоў, паколькі яны прыватныя, можа быць падведзены пры наяўнасці праектна-каштарыснай дакументацыі і, адпаведна, неабходных матэрыяльных рэсурсаў. Усе гэтыя работы выконваюцца за кошт прыватных домаўладальнікаў. Праўда, у гэтай сітуацыі ёсць адваротны бок медаля. У свой час газіфікацыяй па тых адрасах займаўся кааператыў. А грамадзяне, якія зараз звяртаюцца і якія, здаецца, укладвалі ў той кааператыў грошы, што называецца, «пракінулі». Выйсце адно: справу можа вырашыць толькі суд.

**— Аляксандр Аляксеевіч, пытанне ад Палаўчэні Ліліі Мікалаеўны, якая жыве па вуліцы Леніна ў інтэрнаце. Просіць дапамагчы атрымаць кампенсацыю за шкоду, якая нанесена з-за прарыву ацяпляльнай батарэі.**

— Мы ведаем пра гэты зварот. У свой час выканкам дапамог гэтай жанчыне. Часткова, між іншым, аўтарамзавод кампенсаваў шкоду. Але жанчына лічыць, што не ў поўнай ступені. Ізноў жа ў такім разе пытанне павінен вырашыць суд. Іншага шляху, відавочна, няма, калі ёсць пэўная незадаволенасць.

**— Аляксандр Пятровіч Жук цікавіца, калі ў Слуцку будзе дабудавана лазня ў раёне вуліцы Піянерскай. Мяркуем, што гэтае пытанне хвалюе і іншых грамадзян.**

— Я нагадаю, што лазня будуецца за кошт абласнога бюджэту. У 1992-1993 гадах было выдаткавана па тых цэнах 15,8 млн. рублёў. Пачынаючы з 1993 года гарвыканкам неадноічы звяртаўся ў аблвыканкам з просьбай выдзеліць цэнтралізаваныя капіталаўкладанні на працяг будаўніцтва лазнева-аздараўленчага комплексу, аднак пакуль што аб'ект так і не ўключаны ў план капітальнага будаўніцтва. Але тут нельга не ўлічваць і наступны момант. У план дагэтуль як першачарговыя аб'екты трапілі школа і бальніца. Мне здаецца, пры ўмове, што ў горадзе працуе лазня па іншаму адрасу, рашэнне правільнае. Пацярпець яшчэ які-небудзь год можна.

**...Безумоўна, з таго мноства пытанняў, агучаных у час «выязной прыёмнай», старшыня адказаў толькі на некаторыя. Асобныя з праблем мы пакінулі на каментарый юрыстам, работнікам міністэрстваў, якія працавалі разам з журналістамі ў Слуцку. Адказы, паважаныя случчане, — у бліжэйшых нашых публікацыях.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# СЛУЦКІ «ПЫТАЛЬНІК»: ЖЫЛЛЁ, ПЕНСІІ, АДПАЧЫНАК

**Вырашыць усе закранутыя падчас сустрэч на Случчыне праблемы газета, вядома, не можа. Таму трэба сказаць адразу, што абсалютная большасць пытанняў была накіравана намі ў тыя інстанцыі, якія здольны і павінны на іх адказваць — у міністэрства аховы здароўя, сацыяльнай абароны, пракуратуру, Федэрацыю прафсаюзаў, мясцовым уладам і г.д. Тым не менш, некаторыя са зваротаў мы ўсё ж палічылі вартымі газетнай старонкі хаця б таму, што яны як бы «выходзяць» за межы толькі горада і толькі раёна. Такім чынам, тлумачыць намеснік загадчыка юрыдычнага аддзела Федэрацыі прафсаюзаў Святлана СМАГЛЮК.**

***— Наша сям'я мае статус «маладой» (да 30 гадоў) і стаіць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў з 1988 года. Ці можам мы атрымаць ільготны крэдыт на будаўніцтва індывідуальнага дома?***

**Ала Уладзіміраўна Васілевіч**

— Паколькі ваша сям'я адносіцца да катэгорыі сям'і маладога грамадзяніна, вы маеце права на атрыманне льготнага крэдыту на падставе прэзідэнцкага ўказа № 358 ад 10 верасня 1996 года. Да таго ж, паколькі сям'я знаходзіцца на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, на вас распаўсюджваецца дзеянне ўказа Прэзідэнта № 555 ад 17 снежня 1996 года.

***— Мая нявестка разведзена з мужам ужо 4 гады, мае непаўналетняе дзіця і пражывае са мной у трохпакаёвай кватэры. У свой час, пасля з'яўлення ўказа аб жыллі для моладзі, нявестка падала адпаведную заяву і яе паставілі на льготную чаргу. Аднак потым з чаргі нявестку знялі і патлумачылі, быццам у нас «хапае квадратных метраў». Хіба гэта правільна?***

**Ніна Аляксандраўна Зык**

— Маладая сем'і, маладыя грамадзяне з ліку маці-адзіночак, разведзеныя муж і жонка з непаўналетнімі дзецьмі (нават калі яны пражываюць разам з бацькамі, незалежна ад узроўню забяспечанасці жылой плошчай) у выпадку, калі яны маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і жадаюць будавацца або набыць жыллё за кошт уласных сродкаў, аднаразовых субсідый і льготных крэдытаў, павінны прымацца на асобны ўлік.

Апроч таго, згодна з п.п. 4.4. Правілаў уліку грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, асобы, што пражываюць у сумежных, неізаляваных пакоях або ў адным пакоі пры адсутнасці сваяцкіх адносінаў, прымаюцца на ўлік незалежна ад займаемай плошчы.

***— У маі 1997 года мне выдзелілі крэдыт пад індывідуальнае будаўніцтва, але са студзеня 1998 года крэдыт ужо трэба пагашаць. Адкуль такі тэрмін і хіба рэальна за такі час скончыць будаўніцтва?***

**Віктар Уладзіміравіч Пенязь**

— Тут варта хіба што нагадаць: указам Прэзідэнта ад 17 снежня 1996 года, на падставе якога вы атрымалі крэдыт, вызначана, што крэдыты выдаюцца грамадзянам тэрмінам да 40 гадоў з умовай іх пагашэння і ўплаты 5 працэнтаў гадавых за карыстанне імі праз год пасля пачатку крэдытавання.

***— Як вызначаецца ацэначны кошт жылля пры выдзяленні крэдыту?***

**Алег Барысавіч Удавічэнка**

— Пры вызначэнні памеру крэдыту ў разлік прымаецца кошт 1 квадратнага метра агульнай плошчы жылога памяшкання, які складаецца ў адпаведным населеным пункце з улікам індэксавання кошту будаўнічамантажных работ і нормы агульнай плошчы на кожнага члена сям'і, роўнай 20 квадратным метрам.

***— Ці можна прыватызаваць кватэру ў калгасным доме за чэкі «Маёмасць»?***

**Іван Цімафеевіч Бенеш, в. Грэск**

— На жаль, не. Для прыватызацыі кватэры могуць быць выкарыстаны толькі чэкі «Жыллё».

***— У нашай спартшколе працуюць каля 50 чалавек, з якіх трэцяя частка — так званы тэхнічны персанал, водпуск якога ўсяго 5 працоўных дзён. Ці правільна гэта? І яшчэ: ці правільна, што нам спынілі выдачу малака «за шкоднасць»?***

**Работнікі басейна, г. Слуцк**

— Адразу трэба паведаміць, што з 22 студзеня 1998 года пачалі дзейнічаць змены ў Кодэксе законаў аб працы Рэспублікі Беларусь, якія ўсталявалі мінімальную працягласць аплатнага водпуску — 18 працоўных дзён. Правам жа на атрыманне дадатковага водпуску (6 дзён) з працоўнага ў вашай школе тэхнічнага персаналу, паводле існуючых нормаў, могуць карыстацца толькі прыбіральшчыкі вонкавых памяшканняў і памяшканняў грамадскага карыстання.

Што да другога пытання, то, згодна з пастановай Дзяржаўнага камітэта СССР па працы і сацыяльных пытаннях і Прэзідыума Усесаюзнага цэнтральнага савета прафсаюзаў ад 16 снежня 1987 года (гэта пастанова дзейнічае і дагэтуль), устаноўлена, што рашэнне аб бясплатнай выдачы малака або іншых харчовых прадуктаў павінна прымацца непасрэдна самім прадпрыемствам.

***— Ці мае права на льготную пенсію даярка?***

— Згодна з артыкулам 12 закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні», жанчыны, якія працуюць даяркамі, цялятніцамі, свінаркамі ў калгасах, саўгасах, іншых прадпрыемствах сельскай гаспадаркі, маюць права выйсці на пенсію па дасягненні 50 гадоў. Аднак у дадзеным выпадку нельга таксама забываць на дзве вызначаныя тым жа законам умовы — папершае, стаж гэтай работы павінен складаць не менш за 20 гадоў, і, па-другое, абавязковай умовай ільготнай пенсіі з'яўляецца выкананне ўстаноўленых нормаў дагляду жывёлы.

**Падрыхтаваў Сяргей ГРЫБ.**

# ЧАРГА ДАЎЖЭЙШАЯ ЗА ЖЫЦЦЁ?

**Ёсць рэчы, гавараць аб якіх, на першы погляд, увогуле няма сэнсу. Хаця б таму, што, у рэшце рэшт усё роўна давядзецца хіба што бездапаможна развесці рукамі — маўляў, мы мяркуем, а абставіны дыктуюць. Бяда толькі ў тым, што праблемы самі па сабе не знікаюць ніколі...**

Гэтая сітуацыя паўстала як быццам крышачку «выпадкова»: у час «выязной прыёмнай» «Звязды» ў Слуцку на сустрэчу прыйшлі дзве яшчэ даволі маладыя жанчыны і проста папрасілі завітаць на вуліцу Чэхава, 55. Трэба сказаць адразу, што мелася на ўвазе звычайны рабочы інтэрнат.

Слуцкі завод «Модуль», што ад пачатку планаваўся пад «абаронку», пачаў працаваць у пераломным 1985-м. Калі б не гэтая акалічнасць, магчыма, усё было б інакш. Але атрымалася тое, што атрымалася. Пасля распаду СССР і скарачэнняў у арміі вытворчасць спецтэхнікі тут была спынена. З 1992 года завод, які на той час страціў прыкладна дзве трэці былых аб'ёмаў, прызнаецца канверсійным прадпрыемствам і пакрысе пераарыентуецца на дрэваапрацоўку. Як правіла, няхітрая мэбля, што выраблялася на «Модулі», ішла на экспарт, удзельная вага якога даходзіла да 80 працэнтаў. Аднак гады два з паловай таму з прычыны агульнай нестабільнасці ў краіне, а таксама стрымлівання курса СКВ пры росце цэн на ўнутраным рынку фінансава-эканамічнае становішча завода рэзка пагоршылася. Дастаткова сказаць, што тэмпы выпуску прадукцыі ў супастаўных цэнах падаюць тут амаль у чатыры разы, у столькі ж скарачаецца колькасць занятых. Наступствы для тых, хто застаўся працаваць, прадказаць няцяжка: пачаліся прастоі, праца няпоўны тыдзень, на баланс горада перадаецца кацельня і дзіцячы садзік. Але ці не галоўнае: спыняецца ўсякае будаўніцтва, і ў першую чаргу — будаўніцтва жылля. Тым часам пры заводзе застаўся перапоўнены інтэрнат.

Цяпер жыхары інтэрната па Чэхава, 55 (якія, дарэчы, не без горкай іроніі самі сябе называюць «селядцамі») не хаваюць, што пайшлі працаваць на «Модуль» перш-наперш таму, што тут, як здавалася некалі мелися някепскія шанцы на ўласнае жыллё. Тады, як і мае быць, іх паставілі на чаргу, выдзелілі па пакойчыку ў інтэрнаце і папрасілі пачакаць. Аднак добра вядома, што ісціна што няма нічога больш сталага, чым часовае, пацвердзілася і на гэты раз.

Наўрад ці трэба казаць шмат слоў аб тым, у якіх умовах давозіцца жыць гэтым людзям сёння. Нават не зважаючы на такія «прывабнасці» інтэрната, як цёмныя калідоры, брудныя сцены і агульныя кухні, кідаюцца ў вочы перш-наперш самі пакоі — яны тут стандартныя, па дванаццаць квадратных метраў. Калі патрэбныя тлумачэнні, то калі ласка: два ложкі, стол, халадзільнік, тэлевізар — і ад тых метраў застаюцца толькі вузенькі, на пару крокаў, праход. А што рабіць, калі літаральна ў кожнага па аднаму два дзіцяці? Асабліва, калі гэтыя дзеці ўжо хутка скончаць школу. А калі прыедзе сваяк ці проста завітае знаёмы, нарэшце, калі няма дзе, да лрыкладу, пасушыць бялізну?.. Усё б, можа, і нічога, але ўсякаму цярпенню рана ці позна прыходзіць канец. Тым больш, што «падвешаны» стан працягваецца тут ужо гадоў 7—10, і, што самае горшае, надзей на лепшае практычна няма.

Дзеля справядлівасці: мары накошт «бясплатнага жылля» ніхто даўно не мае. Яны разумеюць, што адзінае выйсце — спрабаваць будавацца, хаця, наколькі гэта рэальна пры заробках у мільён-два, вядома. Але гаворка не пра тое, бо, як кажуць, адусюль і памалу, на першы ўзнос набраць калі-небудзь можна. Толькі дзе ўзяць запаветны крэдыт? Справа ў тым, што ўсе гэтыя людзі, пакуль знаходзяцца ў заводскай чарзе, на год, на два ці тры перасягнулі 30-гадовую «ўзроставую планку» і як бы аўтаматычна страцілі тыя самыя маладзёжныя «перавагі».

Што далей, можна меркаваць з наступнага. Зараз у Слуцку за кошт крэдытаў палепшыць свае жыллёвыя ўмовы маюць намер каля 4 тысяч сем'яў, і жыхары інтэрната па вуліцы Чэхава павінны апынуцца ў гэтай чарзе ці не апошнімі. У той жа час магчымасці горада дазваляюць штогод крэдытаваць будаўніцтва ўсяго каля 300 кватэр. Падлічыць нескладана: чакаць дапамогі ад дзяржавы давядзецца не менш як 12—15 гадоў. І гэта ў лепшым выпадку. Бо нават такіх малапрывабных гарантый зараз ніхто не дае, таму што зноў-такі — «усё будзе залежаць ад фінансавых магчымасцяў». Пытанне толькі, ці з'явяцца гэтыя магчымасці ўвогуле?

**Сяргей ГРЫБ.**



**На сустрэчы з працаўнікамі калгаса «XVI партз'езд» Слуцкага раёна.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# Сказ пра тое, як вейнянская «Шыпшына» на пару з «Сонечным» маскоўскіх тэлезорак перамагла

**Пра навіны ў «Вейнянскай крыніцы» я часта даведваюся... у мінскім магазіне каля дома, дзе жыву. Калі ў Вейна асвойваюць новую прадукцыю, яна даволі аператыўна з'яўляецца на сталічных паліцах. Наш гандаль вейнянцаў паважае — прадукцыя іх у ліку найбольш хадавых.**

**Калі збіўся падлічваць навінкі — сабраўся ў камандзіроўку.**

**Здалося, што ў мінулы мой прыезд, у разгар «пітнога» сезона, працоўны рытм на заводзе быў не такім «закручаным». Зараз змена працавала сама па сабе, тут тэмп задае аўтаматыка, але «штабныя» на гэты раз былі загружаны вышэй галавы. Тэхнолагі нешта аблічвалі, не падымаючы вачэй. Намеснік дырэктара тэрмінова рыхтаваў сур'ёзны дакумент. Дырэктар вырашаў пытанні з заснавальнікамі. Акрамя ўсяго, на заводзе «сядзелі» ўкраінскія партнёры, планавалася дэгустацыя з іх удзелам... І я ўдзячны ўсім сваім суразмоўцам за тое, што выкраілі час для карэспандэнта «Звязды», гэта значыць для яе чытачоў.**

## 1. Вейна цяпер і за мяжою Вейна



Першае інтэрв'ю — з галоўным тэхнолагам Людмілай Літвін.

**— Мы не бачыліся паўгода, Людміла Пятроўна. Што за гэты час адбылося добрага?**

— Памятаеце, я вам расказвала пра мінулагоднюю выставу-аўкцыён у Санкт-Пецярбургу, у ходзе якой здарылася не зусім звычайнае: імянітыя расійскія, у тым ліку маскоўскія, фірмы-пераможцы ўздымаліся на сцэну за ўзнагародамі строга адзін раз. А мы — тройчы! Ну, гэта той самы аўкцыён, калі праводзіўся конкурс «Вадахлёб» і мы атрымалі ад піцерскай дзятвы вялікую плюшавую цацку.

Дык вось, ужо пад канец мінулага года, у лістападзе, прынялі ўдзел яшчэ ў адным вельмі прэстыжным мерапрыемстве — міжнароднай выставе «Інтэрдрынк—97». Яна праходзіла на тэрыторыі былой ВДНГ у Маскве. На дэгустацыйны конкурс прадставілі пяць відаў напіткаў. І ўсе пяць заваявалі медалі.

**— Чаму ж было не выставіць шэсць?**

— Ведаеце, жарты жартамі, але адчуванне такое, што калі б мы прывезлі ўсе дзесяць, то і медалёў было б роўна столькі... У наступны раз праверым.

Але вернемся да нашых «імяніннікаў». Два напіткі — дзіцячы «Сонечны», у якім удала спалучаюцца водар дыні і кавуна, і «Шыпшына» — атрымалі залатыя медалі. «Апельсін» стаў сярэбраным пераможцам. «Тонік» і «Лімон-спрынт» «забранзавелі». Пры ўручэнні медалёў аўтарытэтнае журы выказалася ў тым сэнсе, што яно прыемна здзіўленае самім фактам існавання ў Беларусі завода, які выпускае настолькі смачныя напіткі.

Пахвала кампетэнтных у сваёй справе людзей, сярод якіх былі буйныя замежныя спецыялісты, а таксама вядомыя вучоныя з расійскіх і ўкраінскіх інстытутаў, вартая яшчэ аднаго медаля.

Трэба мець на ўвазе, што ў групе безалкагольных напіткаў мала хто заняў прызавыя месцы.

Я дазволю сабе пажартаваць:

**— Відаць, вы лепш абходжвалі членаў журы. Таму і разрэкламаваных «тэлезорак» перамаглі.**

Галоўны тэхнолаг на гэты раз жарту не прыняла.

— Журы працавала за абсалютна «зачыненымі» дзвярыма. Мы нават не размаўлялі з яго членамі. Прыехалі, здалі сваю прадукцыю, і ўсё. Ніякіх папярэдніх кантактаў не было. Усе дэгустацыйныя конкурсныя мерапрыемствы праводзіліся на ўмовах поўнай ананімнасці вытворцаў. Тыя, хто дэгуставаў, не ведалі, чые гэта напіткі. Так што думка ў іх незалежная.

**— Такі конкурс — заўсёды школа?**

— Было выстаўлена шмат напіткаў, мы ўбачылі, чым займаюцца канкурэнты, адчулі апошнія тэндэнцыі. Напрыклад, назіраецца такая цікавая з'ява: шырыцца вытворчасць безалкагольных напіткаў на сокавай аснове.

Вельмі выразна адчуваецца тэндэнцыя араматызацыі сталовых пітных вод. Гэта вада без цукру, пітная араматызаваная вада. Шмат становіцца квасаў.

Важна, што ва ўсіх гэтых напрамках мы таксама працуем. Скажам, у сёлетнім сезоне, бліжэй да лета, у нас выйдзе квас на аснове айчыннага канцэнтрата квасного сусла (з натуральнай сыравіны — жытняга соладу). Ужо гэты і наступныя нашы квасы будуць набліжаныя да любімых усімі бочкавых квасаў, толькі разлітыя ў бутэлькі і газіраваныя. За кошт чаго павялічваецца тэрмін іх захоўвання — да месяца.

**— Адзін квас вы ўжо пачалі выпускаць раней. На падыходзе — вось гэты, пра які так «смачна» расказваеце. А што затым будзе ў «квасным» асартыменце?**

— Квас пад назвай «Маскоўскі», квасы з мёдам і хрэнам.

**— Квас з хрэнам?**

— Чаму вы здзіўляецеся? Абедзве рэцэптуры — з мёдам і хрэнам — старадаўнія, правераныя часам. Аснова — як у любым квасе, а ў якасці араматызатара — натуральная выцяжка, таго ж хрэну: усяго адна кропля... Акрамя таго, мы папоўнілі асартымент трыма новымі напіткамі — паставілі на паток «Колу-клубніцу», «Колу-вішню» і «Колу-дыню». У рабоце «Кола-банан». Мы зрабілі стаўку на тое, што гэта не збіты асартымент — фруктовыя колы. Да звычайнай «Колы» дабаўляецца араматызатар нейкага фрукта.

З расказа галоўнага тэхнолага я ведаў, што на заводзе даволі часта і эфектыўна карыстаюцца такім прафесійным інструментам як дэгустацыя. Мне пашанцавала: змог папрысутнічаць на адным з гэтых «экзатычных» мерапрыемстваў. Яно заўсёды — характэрнае, «гаворачае», бо паказвае адносіны заводскіх спецыялістаў да справы. Упэўніўся: фірмы-пастаўшчыкі, у тым ліку замежныя, сёння ахвотна маюць справу з «Вейнянскай крыніцай» і хацелі б прадаваць ёй свае канцэнтраты або іншыя інгрыдыенты, але на заводзе не спяшаюцца мяняць правераныя рэцэптуры. І кожны раз знаёмства з новымі прапановамі ператвараецца (на тых жа дэгустацыях) для кандыдатаў у партнёры ў добразычлівы, але строгі экзамен. У гэтым заводскія спецыялісты бачаць пэўную гарантыю захавання высокага рэйтынгу сваёй прадукцыі.

## 2. Беларускі «Нарзан» таксама лечыць

У кабінеце дырэктара паспытаў яшчэ адну навінку — мінеральную ваду «Сосны». Асабіста мне падалося, што гэта самая лепшая мінералка, якую я апошнім часам піў — вельмі насычаная.

**— Так, крыху мацнаватая. Будзем больш разводзіць, — згаджаецца Уладзімір Дудакоў. — Гэта — «Сосны», яна ўжо паступіла ў про́даж. А будуць яшчэ «Сосны-1» і «Сосны-2».**

Дабываюць ваду са свідравін на тэрыторыі мясцовага санаторыя «Сосны» (адсюль і назва) з глыбіні амаль 400 метраў. Разводзіць вымушае надзвычай высокая прыродная канцэнтрацыя мінералаў і солей. Дактары (у прыватнасці галоўны ўрач санаторыя Фёдар Крук) упэўненыя, што яе з поспехам можна выкарыстоўваць як сталовую, так і ў лячэбных мэтах. Вада можа паспрыяць пры хваробах абмену рэчываў і страўнікава-кішачнага тракту.

Зараз «Сосны-1» і «Сосны-2» знаходзяцца ў стане распрацоўкі.

Уладзімір Міхайлавіч паказвае іншыя навінкі сезона і заўважае, што ў вейнянскіх «Колах» кафеіну ў два разы менш, чым у знакамітых замежных. Гэта важна, калі ўлічыць, што нашы «Колы» ў асноўным разлічаны на дзяцей.

Потым размова паступова пераходзіць на перспектывы. Я ўжо ведаю з расказу падначаленых Дудакова, якія планы тут выношваюць. Хутка, у канцы сакавіка або самым пачатку красавіка, завод будзе на некалькі дзён спынены. Энергічная рэканструкцыя абсталявання дазволіць перайсці на разліў прадукцыі з «сямейных» двухлітровак у больш хадавыя паўлітровыя і літровыя бутэлькі.

Пасля пераходу на дробную тару плануецца пачаць выпуск сокаўтрымліваючых напіткаў (20—30 працэнтаў соку) і газіраваных сокаў. Адначасова будуць спрабаваць наладзіць выпуск слабаалкагольных напіткаў — ад 6 да 9 градусаў. (Вядомая сітуацыя ў краіне, калі таннейшая гарэлка вымушае купляць перш за ўсё яе, а не віно.) На заводзе ўжо зроблены папярэднія захады. У прыватнасці, разам з прадстаўнікамі фірмы «Этол» двойчы праводзілі «прыстрэлачную» дэгустацыю «Марумбы» (6 працэнтаў алкаголю), «Джына-тоніка» (6—9 працэнтаў) і іншых папулярных напіткаў гэтага шэрагу. Плануецца, што першымі вейнянскімі навінкамі стануць «Джын-тонік», «Ром-кола», «Гарэлка-яблык» і «Сангрыя».

Крышку мяняецца і гандлёвая стратэгія прадпрыемства. У буйных гарадах Расіі, і ў першую чаргу Маскве, Санкт-Пецярбургу, Смаленску, плануецца адкрыццё прадстаўніцтваў завода. Гэта дазволіць яму адчуваць сябе больш упэўнена на неабсяжным расійскім рынку.

Рэалізаваць любыя планы было б лягчэй, лічыць Уладзімір Міхайлавіч, калі б айчынныя вытворцы напіткаў вялі ўзгодненую палітыку на ўнутраным рынку. Ва ўсякім разе, цэнавую. Разам лягчэй захаваць нацыянальны сектар на рынку безалкагольнай прадукцыі, які зараз яны вымушаны дзяліць з замежнымі фірмамі-гігантамі. Каб не здарылася як у Польшчы, дзе «Кока-кола» захапіла ўвесь рынак.

**— Мы не збіраемся канкурыраваць з «Кока-колай» ці «Пепсі-колай». Гэта немагчыма. І потым, у пакупніка павінен быць выбар. Але кантакты беларускіх вытворцаў далі б нам лепшае веданне кан'юнктуры. Мы зрабілі першыя крокі адзін насустрач другому. Да нас прыязджалі з «Дарыды», знаёміліся з вытворчасцю. Нашы людзі вучыліся ў Мінску. Такія кантакты вельмі карысныя, яны даюць адчуванне сяброўскага пляча. Наступным крокам магло б стаць стварэнне кансультатыўнага савета, які абмяркоўваў бы, скажам, раз у квартал, нашы агульныя праблемы.**

Мо варта калегам-дырэктарам прыслухацца да думкі Дудакова? Яна здаецца нам слушнай.



## 3. Ад чаго яшчэ залежыць імідж

Гандлёвы аддзел завода правёў у магілёўскім універмагу «Цэнтральны» дзень свайго прадпрыемства. З бясплатнай дэгустацыяй напіткаў. Народу было шмат. Такія нефармальныя сустрэчы становяцца традыцыйнымі і надаюць аўтарытэту вытворцам. Як і абсалютна неардынарная акцыя, праведзеная завадчанамі сумесна з рэдакцыяй «Днепровской недели» — гэта дадатак да абласной «Магілёўскай праўды». Газета аб'явіла конкурс на лепшы верш пра «Вейнянскую крыніцу». Вершаў сабралася столькі, што пад іх адвялі цэлую газетную паласу. Сярод аўтараў былі і дзеці, і дарослыя. Выходзіць, любяць магіляўчане тую крыніцу, што бруіцца ля Машэкавай гары.

Але, думаю, любяць не толькі яны. Давайце зробім невялікі эксперымент. Калі некаму з нашых чытачоў напіткі «Вейнянскай крыніцы» палюбіліся настолькі, што будзяць паэтычны настрой, мы ў сваю чаргу рады будзем прачытаць рыфмаваны водгук у сябе ў рэдакцыі. Самыя «смачныя» надрукуем.

... З пасёлка Вейна я вяртаўся ў Магілёў ужо добрым прыцемкам, на заводскім аўтобусе-«гармоніку». Аўтобус выпісваў па гораду «васьмёркі», развозячы дзённую змену і ўпраўленцаў па дамах. На прыпынках грамадскага транспарту стаялі натоўпы пасажыраў. І я па-добраму пазайздросціў завадчанам. Кожны дзень завязуць цябе на работу і прывязуць назад. Накормяць бясплатным абедам у сталовай. Гарантавана выдадуць зарплату. У цэхах — чысціня і радуе вока каляровая вясёлка прадукцыі, выраблена́й і тваімі рукамі.

Успомніліся дарэчы і словы аднаго з вершаў, дасланых на конкурс, праведзены «Днепровской неделей»: «И честь, и хвала, и «спасибо» заводу, что делает сказкой криничную воду».

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**



**НА ЗДЫМКАХ:**

- *Рамана КУЛЯГІНУ падабаецца вадзіца з цуда-крыніцы.*
- *У заводскай лабараторыі. Справа налева: інжынер па якасці Вольга ДАВЫДАВА, кантралёр Ірына КАЛЬЯНАВА і лабарант Валянціна ЛАШАКОВА.*
- *Намеснік дырэктара па вытворчасці Уладзімір ШАПАВАЛАЎ (злева) і намеснік начальніка аддзела збыту і маркетынгу Юрый СТРАХ абмяркоўваюць вынікі апошняй камандзіроўкі работнікаў завода ў Расію.*

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# ХТО ПРАПАНАВАЎ ПАГОНЫ?

**Летам 1943 года ў войсках Чырвонай Арміі з'явіліся пагоны. Але аб тым, хто стаяў ля вытокаў гэтай незвычайнай падзеі, ведаюць не ўсе.**

**Заслону над тайнай рэстаўрацыі ў рабоча-сялянскіх палках «царскай ваеннай атрыбутыкі» ў пэўным сэнсе прыадкрываюць дакументы асабістага архіва былога першага сакратара ЦК кампартыі Беларусі П. К. Панамарэнкі падчас яго знаходжання ў ролі члена ваеннага савета 3-й ударнай арміі.**

СЯРОД 443 лістоў даволі важкай архіўнай справы адно з цэнтральных месцаў займае яго вялікае, на 28 старонках, пісьмо І. В. Сталіну. Яно складаецца з чатырох раздзелаў: палітычная работа ў Чырвонай Арміі; меры па разлажэнню нямецкіх войскаў; дзейнні сярод вясковага насельніцтва; прапаганда на акупіраваных тэрыторыях. Аб верагоднасці яго адпраўкі ў Крэмль сведчыць подпіс аўтара, дата на хадайніцкім лісце Паскрэбышаву — 20.IV.1942 г., у якім гаворыцца: «Пасылаю для таварыша Сталіна даведку «Аб некаторых недахопах у палітычнай рабоце ў ваенны час і мерах па іх ліквідацыі».

Пісьмо нарадзілася ў складаны для Панамарэнкі перыяд. Гэта былі дні, калі яму адмовілі ў правядзенні работы па цэнтралізацыі партызанскага руху ў акупіраваных раёнах СССР. Па сутнасці гэта азначала выцясненне з актыўнай палітычнай дзейнасці. Такая энергічная натура, як Панамарэнка, прымірыцца з новымі ўмовамі існавання не магла. І не хацела. Некаторыя цікавыя падрабязнасці яго ўзаемаадносінаў з вышэйшай уладай паведамляюцца ў яго мемуарах: «Нечакана (26 студзеня 1942 года) Г. М. Маленкоў паведаміў, што ДКА вырашыў прыпыніць гэтыя мерапрыемствы і што са мною будзе гаварыць Сталін. Сапраўды, у той жа вечар Сталін пацвердзіў сказанае. На маё пытанне, чаму нечакана памяняўся пункт гледжання ў адносінах да цэнтралізацыі кіраўніцтва рухам, ён адказаў: уласна кажучы, пункт гледжання не змяніўся, але прызналі мэтазгодным гэта пытанне адкласці. Як стала потым вядома, Берыя, які з самага пачатку супраціўляўся стварэнню штабоў партызанскага руху і рабіў адпаведна гэтаму ўплыў на некаторых членаў ДКА, накіраваў І. В. Сталіну даведку, у якой адстойваў немэтазгоднасць задуманага. Ён лічыў, што партызанскія выступленні — стыхійныя і разрозненыя — не могуць быць ахоплены кіраўніцтвам, ды яны ў ім наогул не зацікаўлены».

Даведаўшыся аб перыпетыях поглядаў на партызанскі рух, Панамарэнка паставіў у цэнтр сваёй ўвагі іншыя, але таксама значныя аспекты ваеннай палітыкі. Аб гэтым якраз і сведчыць яго пісьмо вышэйшаму галоўнакамандуючаму краіны.

Яно пачынаецца з праблем, якія ўзніклі ў сувязі з вайной, новымі метадамі і формамі палітычнай дзейнасці. У ім, у прыватнасці, гаворыцца:

— У нас у многіх выпадках правільнасць адносінаў паміж камандзірам і чырвонаармейцам парушана. Байцы, якія прыходзяць цяпер у армію, у пераважнай большасці патрыёты, але, на жаль, дрэнна выхаваныя салдаты. Цяжкія паходы, часта немагчымасць выканаць прывычныя навыкі гігіены, цяжкая праца, часта недастатковы адпачынак, а ў некаторых выпадках замест адпачынку, згодна з новымі ўмовамі абстаноўкі, яшчэ і дадатковая праца, і чырвонаармеец пачынае, калі ён пакінуты сам-насам са сваімі праблемамі, падаць духам.

Салдат, калі вязе пакет са штаба палка ў дывізію, не адчувае гордасці за адказнае даручэнне. Ён зусім і не думае аб тым, што можа ўбачыць самога генерала, ён не дабіваецца да яго, ён здаць пакет у першай жа канцылярыі і адразу вяртаецца назад. Ён ідзе па вёсцы, і няма таго, каб нягледзячы на стомленасць, агледзець сябе, выпраміцца, прайсці як след, пераміргнуцца, пажартаваць з дзяўчатамі. Ён не спявае песень ні сам, ні ў групе з таварышамі. Ім авалодвае апатыя...

— Можна пісаць колькі хочаш артыкулаў аб тым, што наш чырвонаармеец гаворыць пра Сен-Санса, пра Бетховена і іншых, але як слухач чырвонаармеец хоча чуць рускія і іншых народаў СССР песні, бадзёрыя, патрыятычныя. Артысты прыязджаюць на фронт часта з даволі наіўным у сучасных умовах рэпертуарам. Да гэтага часу ніхто не напісаў і не паклаў на музыку добрую песню партызан, хоць партызаны змагаюцца ўжо дзесяты месяц. Не ўзніклі яшчэ песні і маршы Айчыннай вайны, калі не лічыць аднаго-двух твораў.

— Чаму многія з нашых пісьменнікаў не прымаюць ніякага ўдзелу ў армейскіх справах? Вядома нямнога пісьменнікаў, якія сапраўды ўдзельнічаюць у франтавых справах. Але ёсць такія, якія выязджаюць раз ці два не далей канцылярыі франтавых упраўленняў ці ў раён, дзе некалькі месяцаў таму былі немцы, лічаць дастатковым, бо гэта давала ім права напісаць пад артыкулам ці радком ля прозвішча «Дзеючая армія», хоць арміі і яе дзеянняў яны і ў вочы не бачылі. Потым гэтыя людзі ездзяць усюды і распісваюцца: «паэт-франтавік» ці «ўдзельнік баявых паходаў Чырвонай Арміі».

— Немцы скідваюць шмат лістовак. За два месяцы яны раскідалі больш за 30 назваў лістовак. Яны раскідваюць лістоўкі, звернутыя непасрэдна да дывізій, з указаннем іх нумароў і камандзіраў. Напрыклад, як толькі паявіўся ў нас корпус Лізюкова, яны адразу ж раскідалі над ім лістоўку з крытыкай яго брашуры. Лістоўка мела такую назву: «Чаму вучыць нас Герой Савецкага Саюза т. Лізюкоў». Паявілася папаўненне з Сярэдняй Азіі, адразу ж паявіліся нямецкія лістоўкі на ўзбекскай, казахскай, татарскай, туркменскай і башкірскай мовах. А мы не можам гэтага рабіць, хоць ведаем, што ў сканцэнтраваных у раёне Віцебска рэзервах немцаў ёсць французы, італьянцы, венгры, іспанцы, аўстрыйцы.

Раскідванне самалётамі нашай літаратуры носіць рэдкі і выпадковы характар. Кантролю за гэтай справай няма. Спецыяльна выдзеленых самалётаў, якія б раскідвалі матэрыялы, няма, хоць для гэтага зусім дастаткова было б 10—12 рэгулярна працуючых самалётаў. Аддрукаваныя дакументы і лістоўкі больш за ўсё валяюцца ў экспедыцыях, на аэрадромах, у выдавецтвах, але не транспартуюцца. Баявыя лётчыкі не любяць вазіць лістоўкі. Яны часта раскідваюць лістоўкі, прызначаныя для тылу, над сваімі ж войскамі, яны звальваюць іх цюкамі адразу ў адно месца.

— На тэрыторыях, акупіраваных праціўнікам, ёсць вялікая колькасць ваеннаабавязаных. Сярод іх чырвонаармейцы, якія не выйшлі з акружэння і аселі па дамах, не паспелі адмабілізавацца, мабілізаваныя, але якія разбегліся з калоны пры бамбёжках, дзезерціры і адлушчаныя немцамі дадому ваеннапалонныя. Настрой у пераважнай большасці гэтых людзей вызначаецца ўзнікшымі цяжкасцямі іх становішча. Са здраднікамі і дэзерцірамі, перабежчыкамі, якія адседжваюцца дома, вядуць жорсткую барацьбу партызаны. Гэтых здраднікаў яны знішчаюць. Асабліва актыўная такая дзейнасць партызан у глыбокім тыле, дзе немцаў няма. Разам з гэтым некаторыя партызанскія атрады закранулі рэпрэсіямі і неадмабілізаваных, а таксама тых, хто не выйшаў з акружэння. Мне здаецца, неабходна прымусіць іх служыць і загладзіць віну і частку нейтралізаваць, а потым можна будзе разабрацца, што з кім зрабіць. Неабходна прадумаць такую лінію палітыкі адносна гэтых людзей, каб не кінуць іх у абдымкі немцаў, не зрабіць гэты кантынгент пастаўшчыком матэрыялу для розных банд. А то інакш можа атрымацца, што партызанам з вясны давядзецца не з немцамі змагацца, а важдацца з імі.

Праведзены аналіз армейскага жыцця дазволіў Панамарэнку сфармуляваць больш як 10 прапаноў і рэкамендацый па «маральнаму ўздыму войскаў, стварэнню наступальнага прорыву». Вось галоўныя з іх. Яны хаць і невялічкія па змесце, але ж у будучым адыгралі важную ролю у гісторыі ваеннага будаўніцтва.

*— 1. Рашуча павярнуць палітычную работу ў арміі на выхаванне салдата-байца і ўстаранне ў жадаемым намі сэнсе адносінаў паміж салдатамі і афіцэрам.*

*— 2. Увесці ў нашай арміі пагоны для салдат і афіцэраў, магчыма, у крыху змененым выглядзе. У традыцыях рускага народа і рускай арміі лічыць з пункту гледжання знешняга выгляду завершанасці — салдата з пагонамі, тым больш афіцэра.*

*— 3. Устанавіць ваенны афіцэрскі ордэн, выдаваемы толькі афіцэрам і толькі за мужнасць непасрэдна ў баі.*

*— 4. Устанавіць спецыяльны салдацкі ордэн, магчыма, некалькіх ступеняў, выдаваемы толькі за мужнасць непасрэдна ў баі.*

*— 5. Устанавіць спецыяльны знак, магчыма, у выглядзе муаравай стужкі ў пятліцу за раненне. Такая стужка ў сусветную вайну існавала.*

Падрабязнасці праходжання ліста ў вышэйшых інстанцыях не захаваліся. Але, паводле ўспамінаў партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі М. Аўхімовіча, П. Панамарэнка вельмі радаваўся матэрыялізацыі многага напісанага ім у адпаведных заканадаўчых актах Вярхоўнага Савета СССР. Ужо летам 1942 г. уведзены ордэны для афіцэраў, праз год — салдацкі ордэн Славы трох ступеняў. Сам ён у тым жа 1943 годзе атрымаў пагоны разам з прысваеннем яму звання генерал-лейтэнанта. Да таго часу ён ужо быў начальнікам Цэнтральнага штаба партызанскага руху. Але поўнага задавальнення ад зробленага не адбылося, бо, па словах Аўхімовіча, ініцыятыву з пагонамі і іншыя перахапілі Мехліс і Варашылаў.

**Вячаслаў СЕЛЯМЕНЕЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.**
**Яўген БАРАНОЎСКІ,**
**вучоны сакратар Нацыянальнага архіва.**

# Як пераканаць, што ты ахвяра рэпрэсій?

**Гэта праблема ўжо не першы год мучыць жыхара Узды Мікалая Хахлова. Нарадзіўся ён у вёсцы Засценкі Дубровенскага раёна. Па пашпарту — у лістападзе 1930 года, па сведчанню старэйшай сястры — гады на два раней. Бацькі, Рыгор Пятровіч і Крысціна Макараўна, былі звычайнымі сялянамі, хіба што крыху больш працавітымі ды ўвішнымі за іншых. Карацей кажучы, трывала на нагах сталі. Сям'я ж была немалой — акрамя Мікалая яшчэ тры браты і дзве сястры.**

У канцы дваццатых гадоў пачалі стварацца першыя калгасы. Хахловы не спяшаліся падаваць заяву. Тады іх аблажылі непамернымі падаткамі, працоўнымі павіннасцямі. Пазней жыццё аднаасобнікаў, «кулакоў» і ўвогуле стала невыносным. Неўзабаве «рэквізавалі» іх новы дом, разабралі па бервяну, перавезлі ў вёску Краснабель Дубровенскага раёна на будаўніцтва ці то калгаснай канторы, ці то сельсавета. Сям'я пэўны час жыла ў невялічкай лазні. Пасля бацьку і старэйшую сястру выслалі на Поўнач.

Мікалая лёс закінуў у Аршанскі дзетпрыёмнік, а ў 1937 годзе яго накіравалі ў дзіцячы дом Сінячова, што ў Капыльскім раёне. Бацькоў хлапчука ў той час у жывых ужо не было. Калі пачалася вайна, дзетдом эвакуіраваць не паспелі. Трапіў Мікалай Хахлоў у вёску Каменка суседняга Уздзенскага раёна. Ваенныя гады правёў у сям'і мясцовых жыхароў Белакапыцкіх, а пасля вызвалення Беларусі быў накіраваны ў Уздзенскі спецдзетдом. У 1946 годзе паехаў на работу ў Мінск. Потым лёс кідаў яго па ўсяму СССР.

Пасля паведамленняў аб рабоце камісій па рэабілітацыі ахвяр сталінскіх рэпрэсій Мікалай Рыгоравіч вырашыў даведацца што-небудзь пра лёс сваёй сям'і. Сабраў свае сціплыя ўспаміны, расказы сястры, зрабіў запыт аб лёсе сваіх родзічаў на адрас Віцебскага аблвыканкама. Неўзабаве атрымаў адказ, у якім абласная камісія па рэабілітацыі паведамляла, што апісаныя Хахловым факты не пацвярджаюцца. Аказалася пасля, што ён памылкова аднёс сваю былую вёску Засценкі не да Дубровенскага, а да Аршанскага раёна.

Зноў з'ездзіў да сястры. Цяпер ужо яна сама ў свае восемдзесят з лішкам гадоў зрабіла афіцыйны запыт той жа камісіі. Праз месяц ёй паведамілі, што яе справай заняліся абласное ўпраўленне ўнутраных спраў. Крыху пазней, у жніўні 1994 года, Аляксандру Хахлову папрасілі яшчэ раз паведаміць камісіі, колькі часу яна і яе бацька знаходзіліся ў ссылцы і ў якой турме, па якому абвінавачанню, па рашэнню якога суда, якія дакументы, што пацвярджаюць гэты факт, маюцца...

Хіба можа ўспомніць усё гэта дакладна жанчына на дзевятым дзесятку гадоў ці чалавек, якому на момант высылкі бацькі было менш года? І ці выдаваліся каму-небудзь на рукі ў той час абвінаваўчыя заключэнні? Вядома ж, што карная сістэма, наадварот, імкнулася не пакідаць слядоў сваіх злачынстваў. Ці не таму многія ахвяры рэпрэсій і звяртаюцца ў спецыяльныя камісіі, розныя архівы ды іншыя сховішчы дакументаў.

Мікалай Хахлоў з дапамогай журналістаў раённай газеты, дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь М. Дубовіка паспрабаваў адшукаць неабходныя даведкі, дакументы. І з упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама, і з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь прыходзяць традыцыйныя адказы — «...факт прымянення палітычных рэпрэсій у крымінальным ці адміністрацыйным парадку да членаў сям'і Хахлова Р. П. не выяўлены. Хахлоў М. Р. рэпрэсіям не падвяргаўся і рэабілітацыі не падлягае...»

Атрымліваецца, што быў дом у Хахловых і сам па сабе па бервяну рассыпаўся, па ўласнаму жаданню пакінула сям'я нажыты скарб ды разляцелася па свеце. Паспрабуй дакажы цяпер адваротнае...

Гадоў колькі назад Аляксандра Хахлова, калі яшчэ здаравейшая была, здолела адшукаць двух сведак з Дубровенскага раёна, сёння такіх жа, як і яна сама, пажылых людзей, якія ў мясцовым сельвыканкаме пісьмова пацвердзілі той факт, што адабралі ўлады калісьці дом у Хахловых, а яго гаспадара і старэйшую дачку рэпрэсіравалі. Паслалі брат і сястра гэтыя сведчанні ў тую ж камісію, а ім у адказ: жывыя сведкі да ўвагі не бяруцца, патрэбны архіўныя дакументы, пісьмовыя пацверджанні. Дзе ж логіка?

Дзіўнае ў гэтай справе яшчэ і тое, што часткова факт раскулачвання ў адносінах да гэтай сям'і быццам бы і прызналі — летам 1995 года А. Р. Хахловай была выплачана грашовая кампенсацыя ў дзесяціразовым памеры мінімальнай заработнай платы. А вось далей гэтага справа не ідзе.

**Віктар САБАЛЕЎСКІ,**
**намеснік рэдактара райгазеты «Чырвоная зорка»,**
*Уздзенскі раён.*



## ВІНШАВАННІ

*Любую жонку, матулю і бабулю **Аляксандру Мікітаўну ПАДРЭЗЕНКА** віншуем з 70-годдзем. Жадаем здароўя, бадзёрасці, даўгалецця.*

***Муж, дзеці, унукі**, г. Мінск.*

*Віншуем **Вікторыю Уладзіміраўну КАНОНЧЫК** з 20-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця і радасці ў жыцці.*

***Родныя**, г. Клецк.*

*Шчыра віншуюць з днём нараджэння і з гэтай нагоды жадаюць здароўя, шчасця, дабрабыту, шчырага кахання і любові: **Антаніне Фёдараўне** і **Міхаілу Іосіфавічу ПАЎЛОЎСКІМ** — бацькі і хросныя, в. Засер'е Баранавіцкага раёна; **Алесю Васільевічу ЖАЛКОЎСКАМУ** — Булаў, г. Ліда; **Вользе Уладзіміраўне ГУРЫНОВІЧ** — дзядуля, бабуля, родныя; **Галіне Васільеўне РАДАМАН** — сям'я Дмухоўскіх з в. Сноў; **Таццяне Уладзіміраўне МАРЦІНЕЎСКАЙ** з в. Лукі Карэліцкага раёна — Немарская.*

# У КАГО ШТО ЛЕПШ РАСЦЕ



**Даўно заўважана, што агароднікам шанцуе на пэўныя культуры: у адных добра пладаносяць агуркі, у другіх — бульба. Аказваецца, паміж людзьмі і раслінамі ўсталёўваюцца вельмі тонкія ўзаемаадносіны, штосьці накшталт шлюбнай сумяшчальнасці. І добра, калі знак задыяка, пад якім нарадзіўся агароднік, гарманіруе з упадабаным месяцавым знакам вырошчваемай культуры. Не выпадкова Мічурын (Скарпіён) і Бербанк (Рыбы) сталі славутымі садаводамі: яны нарадзіліся пад прадуктыўнымі знакамі задыяка, якія «паважаюць» большасць раслін. А вось Лысенка нарадзіўся пад знакам Шаляў, якія спрыяюць прыгажосці і водару раслін, а не іх прадуктыўнасці.**

| Калі вы нарадзіліся пад знакам... | У вас будуць добра расці | Вас могуць не зразумець... |
|---|---|---|
| *Авена (21.3—20.4)* | базілік, гарох, гарчыца, крэс-салата, цыбуля, агуркі, сланечнік, памідоры, рэвень, радыска, рэдзька, сельдэрэй, хмель, хрэн, часнок | абрыкосы, вінаград, суніцы, капуста, бульба, морква, чорныя парэчкі, сачавіца |
| *Цяльца (21.4—21.5)* | вішня, капуста, бульба, буракі, сельдэрэй, сліва, чорныя парэчкі; яблыня, большасць караняплодаў | маліна, сланечнік, памідоры, парэй, гарбуз |
| *Блізнят (22.5—21.6)* | бабовыя, бульба, морква, пятрушка, рэпа, кроп | вішня, чырвоная капуста, клубніцы, цыбуля, маліна, агуркі, буракі, яблыня |
| *Рака (22.6—23.7)* | бахчавыя, капуста, абляпіха, агуркі, памідоры, рэпа, буракі, сліва, гарбуз, большасць культур з сакавітымі ядомымі часткамі | бабовыя, вінаград, вішня, бульба, цыбуля, пятрушка, чорныя парэчкі, часнок |
| *Льва (24.7—23.8)* | абрыкосы, вінаград, клубніцы, агуркі, сланечнік, памідоры, сельдэрэй, хрэн | вішня, капуста, цыбуля, маліна, буракі, яблыня |
| *Дзевы (24.8—23.9)* | бульба, капуста, морква, пятрушка, буракі, фасоля | вішня, клубніцы, агуркі, часнок |
| *Шаляў (24.9—23.10)* | абрыкосы, вішня, бульба, агрэст, маліна, морква, рэпа, стручковыя, кроп, пахучыя і прыгожыя кветкі | дыні, капуста, цыбуля, падзімняя агародніна, памідоры, часнок |
| *Скарпіёна (24.10—22.11)* | большасць культур, як правіла, з вострым смакам, але асабліва бахчавыя, баклажаны, гарох, горкі перац, кабачкі, кукуруза, цыбуля, радыска, рэдзька, памідоры, часнок | абрыкосы, вішня, вінаград, капуста, агрэст, буракі, сельдэрэй, яблыня |
| *Стральца (23.11—21.12)* | вінаград, бульба, цыбуля, сланечнік, памідоры, салодкі перац, часнок | баклажаны, клубніцы, качанная салата, сліва, парэчкі, агуркі, павойныя расліны |
| *Казярога (22.12—20.1)* | груша, капуста, бульба, пятрушка, радыска, буракі, сліва, чорныя парэчкі, большасць марозаўстойлівых караняплодаў | баклажаны, бахчавыя, кабачкі, кукуруза, агуркі, памідоры |
| *Вадалея (21.1—19.2)* | гарох, бульба, клубніцы, морква, кроп, фасоля | вінаград, капуста, кукуруза, сланечнік, памідоры, яблыня |
| *Рыб (20.2—20.3)* | амаль усе культуры — асабліва вадзяністыя; бахчавыя, агуркі | бульба, качанная салата, клубніцы, памідоры, яблыня |

**Але часцей за ўсё ў сем'ях жывуць прадстаўнікі некалькіх знакаў задыяка, таму больш прыцягвайце іх да работы на садова-агародным участку.**

## Людзі і кветкі: сімпатыі і антыпатыі

**Тое ж самае датычыцца і кветкаводаў: у адных растуць лепш ружы, а ў другіх — гладыёлусы. Паміж біярытмамі кветкавода і кветкі ўсталёўваюцца нейкія эмацыянальныя сувязі, вельмі тонкі інфармацыйны абмен, які стымулюе ці ўскладняе развіццё раслін. Гэта неабходна ўлічваць пры пасадцы кветак. Прапануемая таблічка дапаможа вам падабраць кветкі, найбольш гарманічныя з вашым арганізмам**

**«Крестьянка»**

| Калі вы нарадзіліся пад знакам... | вам сімпатызуюць... | ставяцца да вас насцярожана... |
|---|---|---|
| *Авена (21.3—20.4)* | алоэ, герань, дэльфініум, бружмель, кактусы, півоня | браткі, ляўконія, лілія, мальва, ружы |
| *Цяльца (21.4—21.5)* | браткі, гладыёлусы, півоні, ружы | наготкі, архідэі, бэз, хрызантэмы |
| *Блізнят (22.5—21.6)* | браткі, жасмін, бэз, фіялка | алоэ, гіяцынты, чырвоныя ружы |
| *Рака (22.6—23.7)* | большасць кветак | герань, півоні |
| *Ільва (24.7—23.8)* | алоэ, бягонія, герань, мальва, чырвоная ружа, наготкі, півоні, хрызантэмы | гваздзікі, маргарыткі, нарцысы, архідэі |
| *Дзевы (24.8—23.9)* | вяргіні, гладыёлусы, мацярдушка, нарцысы, ружы | бягонія, мята, бярозкі |
| *Шаляў (24.9—23.10)* | большасць пахучых кветак, гваздзікі, герань, мята, бэз | браткі, кактусы, півоні, кветкі без паху |
| *Скарпіёна (24.10—22.11)* | гваздзікі, касачы, жасмін, мята, наготкі | маргарыткі, архідэі, півоні, ружы, хрызантэмы |
| *Стральца (23.11—21.12)* | бягонія, герань, чырвоная ружа, наготкі | бярозкі, вяргіні, гладыёлусы, касачы, нарцысы |
| *Казярога (22.12—20.1)* | браткі, ружа | гваздзікі, герань, касачы, кактусы |
| *Вадалея (21.1—19.2)* | гваздзікі, герань, жасмін, любіста, маргарыткі, архідэі, бэз | півоні, ружы |
| *Рыб (20.2—20.3)* | большасць кветак, асабліва тыя, што любяць вільгаць | алоэ, бярозкі |



*Экслібрыс «Звязды»*

## «Мой сад у снезе па калена...»

Кожная кніга Алеся Пісьмянкова — чаканая. І, канешне ж, не толькі таму, што друкуецца паэт не часта. А і таму, што вершы Алеся Пісьмянкова — прыцягальна-магнетычныя, вершы з акрэсленым энергетычным зарадам. І вось гартаючы новы зборнік вершаў паэта, які, застаючыся лірыкам, не забываецца пра надвор'е ў нашай прасторнай, бязмежнай хаце («Зноў дождж над Бацькаўшчынай хворай...»), у чарговы раз пераконваешся: Алесь Пісьмянкоў — вечны шукальнік, вечны вандроўнік. Мо таму і назва ў кнігі, выдадзенай, дарэчы, «Мастацкай літаратурай» (аўтар мастацка-тэхнічнага афармлення і макета кнігі — Уладзімір Бутрамееў), лаканічная і разам з тым шырокая, шматгранная — «Вершы». Мо таму і на пачатку, да знаёмства з кнігай выгаварaны і вось гэтыя, ранейшыя, радкі:

*Мой сад*
*у снезе па калена*
*над ім і золь,*
*і снегапад...*
*Табе не холадна,*
*Алена?*
*Табе не боязна,*
*Алена?*
*Табе не хочацца*
*назад?*

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

● **26 лютага 1802 года** нарадзіўся Віктор Мары Гюго, славуты французскі пісьменнік, аўтар такіх раманаў, як «Сабор Парыжскай Богамаці», «93-ці год», драмы «Кромвель», а таксама зборнікаў вершаў.

● **У гэты дзень у 1842 годзе** нарадзіўся Каміль Фламарыён, французскі астраном, даследчык Марса, Месяца, двайных зорак, аўтар вядомых навукова-папулярных кніг.

● **26 лютага 1869 года** нарадзілася Надзея Крупская, савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, ганаровы член Акадэміі навук СССР, жонка У. І. Леніна.

● **26 лютага 1873 года** з'явіўся на свет Энрыка Каруза, славуты італьянскі спявак-тэнар, выканаўца неапалітанскіх песень.

● **У гэты дзень у 1932 годзе** выйшаў першы нумар газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі «Літаратура і мастацтва».

● **У гэты дзень у 1936 годзе** ў Германіі ў вытворчасць быў запушчаны аўтамабіль «Volkswagen» — так званы «жучок» (з-за невялікіх габарытаў). Яго можна было набыць у крэдыт, выплачваючы па 5 марак у тыдзень. Сёння вядомы аўтамабільны канцэрн зноў вярнуўся да выпуску славутых «жучкоў».

● **26 лютага 1952 года**, услед за Злучанымі Штатамі і СССР, Вялікабрытанія аб'явіла аб стварэнні ўласнай атамнай бомбы.

## Цікава

***Амерыканскія неўрапатолагі, якія вывучалі ўзроставыя змяненні галаўнога мозгу з дапамогай з'явы магнітнага рэзанансу, прыйшлі да высновы, што з узростам мозг мужчыны ўсыхае хутчэй, чым жаночы.***

У сярэднім пасля 30 гадоў маса мозгу чалавека змяншаецца кожнае дзесяцігодзе на 2,5 працэнта, але ў мужчын гэты працэс ідзе хутчэй. Спецыялісты мяркуюць аб гэтым па павелічэнню спіннамазгавой вадкасці ў чарапной каробцы. Дык вось, у мужчын за перыяд ад 65 да 95 гадоў яе прыбаўляецца на 30 працэнтаў, а ў жанчын за тыя ж гады — толькі на адзін працэнт. У першую чаргу ўсыхаюць тыя долі галаўнога мозгу, якія кантралююць працэс мыслення, памяць і здольнасці планавання.

На думку псіхолагаў, розныя тэмпы ўсыхання мозгу могуць у многім растлумачыць асаблівасці паводзінаў мужчын і жанчын сталага ўзросту. Кіраўнік даследчых работ Эдвард Кофі ў гутарцы з журналістамі пажартаваў, што яго жонка, калі ён паведаміў ёй аб выніках даследаў, сказала, што ў яе яны не выклікаюць ніякага здзіўлення.

## І так бывае

***Сябры не зайздросцяць Джорджу Дэмпстэру, рабочаму з новазеландскага горада Оклenд...***

Спачатку, неўзабаве пасля вяселля, яго маладая жонка Джэніс падала на яго ў суд, абвінаваціўшы ў тым, што ён, мякка кажучы, не выконвае сваіх «сямейных абавязкаў» — не ўдзяляе ёй патрэбнай увагі ў пасцелі. Рашэннем суда Джорджа абавязалі выплаціць штраф у памеры 4,5 тысячы долараў або прайсці курс спецыяльнага сексуальнага выхавання. Джордж аддаў перавагу другому варыянту і прысвяціў увесь свой вольны час вывучэнню тонкасцяў любоўных гульняў, прагляду эратычных фільмаў, фізічнай падрыхтоўцы. А затым заняўся практыкай. У выніку, ператварыўшыся ў суперпалюбоўніка, ён давёў сваю жонку да поўнага знясілення. Яна зноў падала на яго ў суд.

## Дзесьці на белым свеце

***Варатар каманды «Уорксоп» Джэмі Халмшоу заўсёды марыў аб надзейных іграках абароны, якія не прапусцяць да яго варот сапернікаў і не дадуць праляцець нават шалёнаму мячу. Аднак абаронцы, на жаль, як правіла рабілі інакш, пакідаючы яго сам-насам з нападаючымі каманд-саперніц.***

Але аднойчы мара Джэмі ажыццявілася. Гэта здарылася сёлетняй зімой у час матча ў гарадку Лінкольншыр з камандай «Лінкольн Юнайтэд». На 13-й хвіліне гульні на поле раптоўна апусціўся густы англійскі туман. Джэмі дарэмна ўглядаўся ўперад баючыся, што з-за дрэннай бачнасці прапусціць мяч. Аднак ніхто не замахваўся на яго вароты. Галкіпер не траціў пільнасці і працягваў дзяжурства на баявым пасту. Прайшлі дзве, чатыры, сем хвілін, варожыя нападаючыя не з'яўляліся. Халмшоу парадаваўся за сваіх партнёраў. Ён зрабіў выснову, што яны ўсёй камандай асаджаюць вароты саперніка і не даюць яму магчымасці ўчыніць атаку ў адказ. І толькі праз 20 хвілін свайго адзінокага дзяжурства Халмшоу пачуў галасы. Варатара аклікнулі па імені і з туману выплыла фігура суддзі. Халмшоу быў глыбока расчараваны. Высветлілася, што 15 хвілін таму матч быў спынены з-за туману і ўсе ігракі пакінулі межы поля. Абмяркоўваючы гэты густы нават для Англіі туман, яны не адразу звярнулі ўвагу, што сярод іх няма варатара, які згубіўся ў імжы.

## Неверагоднасці свету

***Уфімскі школьнік па імені Леундзеж ходзіць па інстанцыях, патрабуючы выдаць яму пашпарт, дзе будзе запісана іншае імя.***

Аднакласнікі і настаўнікі называюць яго Лёня, але на самай справе яго рэдкае імя ўяўляе сабой абрэвіятуру: «Ленин Умер, Но Дело Его Живет». Хлопец лічыць, што «шэдэўр» бацькоўскай творчасці састарэў і палітычны лозунг перастаў адпавядаць гістарычнаму моманту, які перажывае зараз яго краіна.

## Анекдот

*— Анры, — кажа жонка свайму мужу, — калі сёння адзін малады чалавек прыйдзе вечарам прасіць рукі нашай дачкі, табе дастаткова сказаць яму проста «згодзен». І не трэба кідацца яму на шыю, цалаваць рукі і крычаць: «Збавіцель мой!..»*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Наставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 1065.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 5 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12